ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 11 (2590)
ПЯТНІЦА
17
сакавіка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.










**Дарагая сястра Украіна! Перад агульным святам нашым, перад імянінамі вялікай сям'і народаў Савецкага краю — прымі шчырае, усхваляванае прывітанне ад блізкай і роднай табе Беларусі. Любы нам твае шырокія разлогі і высокія вяршыні, сінь хваляў Дняпра-Славуціча і зеляніна стром і паланін Верхавіны, сэрцам мы чуем песні твае, рады справам тваім.**

**І сёння мы слухаем тваіх песняроў і музыкантаў, праслаўленых людзей тваіх. Сёння штотыднёвік наш гасцінна аддае свае старонкі дарагім сябрам.**

Колькі спатканняў было на гасціннай зямлі тваёй, Украіна! Гэтыя здымкі — сведчанне такіх братэрскіх сустрэч. На першым здымку (справа налева) — народны паэт Беларусі Янка Купала, акадэмік АН БССР Васіль Шчарбакоў і Платон Галавач на адкрыцці помніка Тарасу Шаўчэнку ў Харкаве ў 1935 годзе; на другім — сустрэча на пероне Кіеўскага вакзала дэлегацыі БССР на святкаванні 300-годдзя ўз'яднання Украіны з Расіяй 20 мая 1954 года. Сярод дэлегатаў — Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. І. Казлоў і народны паэт Беларусі Якуб Колас.

Гэтыя здымкі ўпершыню вы ўбачылі нядаўна на блакітным экране ў перадачах, прысвечаных сувязям нашых літаратур.

Сцяпан АЛЕЙНІК

## ПРЫВЕТ БЕЛАРУСІ

Я люблю цябе, быццам зару!
Тут усё да душы, да спадобы—
І заводы твае, Беларусь,
І палеткаў тваіх хлебаробы.

І раздолле, і веліч вясны,
І пяшчотны між сёстрамі голас,
І паэты, Радзімы сыны,
І бацькі іх — Купала і Колас!

Колькі Янкаў і колькі Катрусь
Вараць сталь, росцяць лён, сеюць жыта...
Палюбіў я цябе, Беларусь...
Твой нястомны народ працавіты!

Знае свет, як у бітвы часы
Ты ўручала сынам аўтаматы,
Як вадзіла атрады ў лясы
Для расплаты! Святое расплаты!

Заклікала: «За слёзы матусь—
Біць фашыстаў усіх без астанку!»
Палюбіў я цябе, Беларусь,
Як Айчыннай вайны партызанку!

Не стрымаць мне пачуццяў сваіх
Прад красой невыказнай і новай.
Я люблю шчырасць песень тваіх
І паэзіі светлую мову.

Кожным словам тваім даражу,
Як чароўнай вясной, як надзеяй.
Тым людзям «Добры дзень» не скажу,
Хто забыць тваю мову пасмее!

Пра такіх я, напэўна, тады
Напішу і сатыру са злосцю.
Ты ж—у працы, паходзе заўжды,
Ганарыся тваёй маладосцю.

Слаўлю наш я братэрскі Саюз,
Росквіт яркі зямлі твайго краю.
Палюбіў я цябе, Беларусь,
І свой шчыры прывет пасылаю.

Пераклаў А. АСТРЭЙКА.

Аляксандр МАЦЕЙКА

## ПАБРАЦІМУ

Баразёнкамі годы
над брывамі пазначаны
і на скронях аселі
дымком-сівізною.
Проста шчасце якое,
што зноў мы з табою пабачыліся,
пабрацім мой,
што тройчы забіты вайною.

Думаў, станеш тужыць,
што замучаны ранамі,
дактароў праклянеш,
бо не сцішылі болю.
Ну, а ты ўсё пра Мінск,
заажураны дужымі кранамі,
ну, а ты ўсё пра жыта,
што ў палескім пасеяна полі.

Думаў, скажаш:—Жыву,
сацзабесам прызначана пенсія,
і садок пасадзіў
ля Заслаўя ў Зялёным.
Ну, а ты ўсё пра Мінск,
што праслаўлены песнямі,
пра Вілейскі канал
і славуты свой Нёман.

Пад асколкамі падаў
і ўставаў зноў са славаю,
зноўку падаў і зноў
ажываў пад расою.
Ты стаіш перад светам,
як дуб, што абпален навалаю
і здзіўляеш усіх
сваёю людскою красою.

Пераклаў А. АСТРЭЙКА.

Міхайла ІГНАЦЕНКА

## ПАЛЕССЕ

Люблю цябе, маё Палессе,—
Вяселку, што спавіла даль,
І птушак шчабятанне ў лесе,
І золата жытнёвых хваль.

Твае лугі, дзе каня плача,
Бары, дзе грыб да грыба— ў рад,
І кветкавы разліў гарачы,
Ляноў блакітны далягляд.

Люблю цябе, маё Палессе,
Заўжды табе, мой край, цвісці.
Прыгожым ты жывеш у песнях,
А прыгажэй яшчэ ў жыцці!

Пераклаў Р. НЯХАЙ.




Кіеў. Цэнтральная магістраль Крашчацік. Фота А. ПРЫМАЧЭНКІ.

Пятро ПАНЧ

## Рабыня нядаўна, учора, а сёння—сама сабе пані..

Калі мы гаворым пра братэрства савецкіх народаў, міжвольна хочацца прыгадаць нейкія гістарычныя факты, якія сведчаць пра ўзаемную дружбу ці дапамогу словам і справай у цяжкі час нашага жыцця. Прыклад таму — спачуванне Тараса Шаўчэнкі долі заняволеных народаў.

У часы царызму ўсе народы, якія былі прыгнечаны манархічнай Расіяй, аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі знаходзіліся на становішчы бяспраўных ускраін. Ім было забаронена ўсё, што нагадвала пра іх нацыянальную прыналежнасць. Украіна пазбаўлена была нават свайго гістарычнага імя і называлася Маласосіяй.

Беспрасветнае становішча прыгнечаных народаў, зразумела, выклікала ўзаемныя сімпатыі, асновай якіх была нянавісць да царызму, да прыгнятальнікаў.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя парвала кайданы рабства, вызваліла ўсе народы колішняй Расіі, надаўшы ім права самавызначэння. Змяніліся падставы жыцця, змяніліся і падставы іх узаемнай дружбы. Стымулам яднання стала імкненне стварыць пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі першую ў свеце дзяржаву працоўных — магутны Савецкі Саюз, у якім няма меншых, няма большых. Усе народы роўныя, усе маюць перад сабой адну і тую ж мэту—збудаванне камунізма.

Адным са спосабаў лепшага пазнання метадаў сацыялістычнага і культурнага будаўніцтва паміж братнімі народамі стаў абмен дэлегацыямі аднолькавых профіляў. Адбываецца ён і сярод працаўнікоў літаратуры і мастацтва.

На Украіне гэта пачалося яшчэ ў 1928 годзе. Група ўкраінскіх пісьменнікаў: С. Піліпенка, П. Тычына, Ул. Сасюра, П. Усенка, А. Паноў, В Палішчук, І. Кулік і аўтар гэтых успамінаў—наведала Савецкую Беларусь, дзе «з бярозамі хвалі гамоняць».

Гэта быў першы выезд украінскіх пісьменнікаў за межы сваёй рэспублікі. За пяцьдзесят гадоў з часу ўтварэння Савецкага Саюза такіх выездаў у братнія рэспублікі, прыездаў у адказ адбылося вельмі многа.

Толькі адзін пералік вышэйшых органаў і ўстаноў рэспублікі, якія наведала ўкраінская дэлегацыя ў час візіту, гаворыць пра маштаб узаемнай карысці. Яна мела размову з сакратаром ЦК КП(б)Б тав. Кнорыным, старшынёй Саўнаркома БССР тав. Галадзедам, старшынёй ЦВК Беларусі тав. Чарвяковым, народным камісарам асветы тав. Баліцкім і іншымі кіраўнікамі, якія дэталёва азнаёмілі нашых пісьменнікаў з жыццём Беларусі, а паездка на Асінбуд дапоўніла іх словы.

Незабыўнымі былі сустрэчы з вядомымі паэтамі і пісьменнікамі Беларусі—Янкам Купалам і Якубам Коласам, а таксама і з іх маладшымі калегамі. Сустракаліся і са шматлікімі чытачамі як у сценах тэатраў, так і на фабрыках і заводах.

Працоўныя Беларусі сустракалі пасланцоў Украіны, як родных братоў. Тым жа аддзякавалі ім і сыны Украіны.

Сімпатыі ўкраінскага народа да беларускага маюць глыбокія карэнні. Прывяду некалькі радкоў з рамана, напісанага паводле гістарычных даных. Яшчэ ў часы вызваленчай барацьбы з панскай Польшчай некаторыя атрады народных мсціўцаў Максіма Крываноса апынуліся на беларускай зямлі. Даведаўшыся, што ад іх прыбыў ганец, гетман Багдан Хмяльніцкі пытае:

«— Што прывёз?

— Паўстанцы палкоўніка Галавацкага ўзялі Гомель. Выразалі больш за тры тысячы паноў і рандароў.

— А беларусаў не крыўдзяць? З сялянамі не сварацца?

— Сяляне і там ужо ваююць з панамі, а то да нашых далучаюцца».

Калі я яшчэ і яшчэ раз прыязджаў у Мінск,—то на юбілей Якуба Коласа, то на з'езд беларускіх пісьменнікаў, і бачыў, як з кожным годам непазнавальна змяняецца аблічча беларускай сталіцы, я з усмешкай прыгадваў першае ўражанне ад Мінска і яго ваколіц. Міжволі прыгадваліся радкі беларускай народнай песні:

Выйду за вароты —
Імхі ды балоты...

Драўляныя хаты, крытыя гонтай, паветкі, парканы. Усё гэта збіта з дрэва і вельмі падобна да гэткіх жа шэрых купін на балоце. І толькі каляровыя шыльды з беларускімі надпісамі крыху ажыўлялі агульны шэры тон.

Гэта было ў шосты год утварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і, хаця на вузкіх вуліцах сталіцы Беларусі яшчэ поўзалі сялянскія падводы, набітыя прэлым сенам ці саломаю, а паміж імі мітусіліся нізенькія аўтобусы, але ў двух тэатрах ужо ставіліся «Цар Максімільян», «Кастусь Каліноўскі», «Мешчанін у дваранстве», а ў кіно дэманстраваліся беларускія фільмы. Сумна было толькі сустракацца з бязлітаснай лічбай —восем мільёнаў гектараў было яшчэ забалочана, але нарком земляробства не апускаў рук:

— Праз адзінаццаць год,—упэўнена сказаў ён тады,— на гэтых нівах будзе радзіць пшаніца па сто пудоў на дзесяціну!

Ураджаі нават пераўзышлі яго прагнозы.

Шлях у сваю будучыню Беларусь пачынала праз меліярацыю,



**Н. УЖВІЙ,**
народная артыстка СССР, старшыня праўлення Украінскага тэатральнага аб'яднання.

# ШЧЫРА РАДЫ ПОСПЕХАМ!

НАША ДРУЖБА з беларускімі братамі даўняя і непарушная. Але расквітнела яна ў поўную сілу пасля Кастрычніка, калі перад нашым мастацтвам раскрыліся неабсяжныя далі для творчасці, а яднанне наша стала пастаянным.

Ніколі не сатрэцца з маёй памяці першае знаёмства з Беларуссю. Яшчэ ў трыццатыя гады мне, разам з такімі выдатнымі дзеячамі ўкраінскага тэатра, як Г. Юра, Ю. Шумскі, Г. Барысаглебская, А. Ватуля, у складзе калектыву тэатра імя Івана Франка давялося наведаць Мінск, Гомель, Віцебск і іншыя гарады Беларусі. Выступаючы перад працоўнымі, мы адразу адчулі любоў і павагу беларускага народа да нас, да нашага мастацтва.

З таго часу і я, і мае пабрацімы ніколі не перапынялі сяброўскіх сувязей з дзеячамі тэатра Беларусі. І нас з усёй шчырасцю радавалі поспехі ў творчасці такіх майстроў сцэны, як Л. Александроўская, голас якой для нас быў і застаецца дарагім назаўжды; мы заўсёды зачароўваліся і захапляліся майстэрскай ігрой непаўторных сваім талентам Б. Платонава, Г. Глебава, Л. Ржэцкай, Ул. Дзядзюшкі і многіх іншых сцяганосцаў беларускага нацыянальнага мастацтва.

Як хораша, што нашы братэрскія ўзаемасувязі мацнеюць з кожным днём. Кожны прыезд тэатральных калектываў Беларусі на Украіну мы заўсёды лічым вялікім святам, як і паездку нашых мастакоў на сяброўскую зямлю. Такімі былі прыезд і гастролі ў Кіеве тэатра імя Янкі Купалы і харавой капэлы пад кіраўніцтвам нашага даўняга друга і старэйшага таварыша Р. Шырмы. Кіяўляне шчыра і сардэчна апладзіравалі выканаўцам «Паўлінкі» і «Лявонíхі на арбіце», горача ўспрымалі мілагучныя песні сяброў.

Як кіяўляне, так і працоўныя іншых гарадоў маёй Савецкай Украіны ўспрынялі сэрцам試 опернае мастацтва Беларусі і назаўсёды палюбілі галасы Т. Ніжнікавай і В. Чарнабаева, Т. Шымко і З. Бабія, якія здолелі зачараваць нашых слухачоў.

За апошнія гады на беларускай зямлі не аднойчы гастралявалі Кіеўскі тэатр аперэты, Ровенскі, Валынскі і іншыя драматычныя тэатры. Са сцэн Мінска і іншых гарадоў гучалі галасы нашых народных артыстаў Юрыя Гуляева і Дзмітра Гнацюка. Ніколі не забудзецца цеплыня гэтых сустрэч.

Радуе і тое, што творы ўкраінскіх драматургаў А. Карнейчука, М. Заруднага, А. Каламійца і іншых занялі трывалае месца ў афішах беларускіх тэатраў. Гэта і ёсць дружба і ўзаемная павага культур дзвюх родных савецкіх рэспублік-сясцёр.

Яшчэ хочацца некалькі слоў сказаць пра цесныя сувязі нашых тэатральных таварыстваў. Яны моцныя і пастаянныя. Мы часта вырашаем разам нашы агульныя пытанні, бо ў нас адны задачы, адна мэта: зрабіць мастацтва здабыткам нашага працоўнага народа, дасягненнем усёй нашай шматнацыянальнай савецкай сям'і.

**М. ГЛУШЧАНКА,**
народны мастак УССР

# АДНОЙ ДАРОГАЙ

Беларусь... Калі я вымаўляю гэта слова, то перада мной паўстае не толькі наўздзіў багатая прырода, але і гераічныя, таленавітыя людзі братняга народа. Перад маімі вачыма паўстаюць магутныя заводы Мінска і Гомеля, Гродна і Магілёва, нафтавыя вышкі на Палессі, белае золата Салігорска—усё тое, што само просіцца пад пэндзаль мастака, на палатно.

Мне двойчы давялося быць на з'ездах мастакоў Беларусі, старанна аглядаць выстаўкі іх твораў. І я ўсім сэрцам быў рад, што большасць іх палотнаў прысвечана нашаму сённяшняму дню—будням працоўнага чалавека—будаўніка камунізма. Мяне ад душы хвалявала тое, што зроблена рукамі такіх майстроў, як В. Грамыка і З. Азгур, А. Глебаў і В. Цвірко, А. Бембель і Ул. Стальмашонак і многія іншыя.

Як у беларускіх, так і ва ўкраінскіх мастакоў адна мэта—аддаць свой талент на службу народу. А таму ў нас і адзінства планаў, садружнасць у творчасці, узаемаабмен.

Мы заўжды радуемся поспехам сваіх сяброў, дзелімся ўсім тым, што ў нас лепшае. Іменна гэта агульная зацікаўленасць дапамагае нам у творчасці. Асаблівае значэнне мае ўзаемаабмен выстаўкамі жывапісу, графікі і скульптуры, якія час ад часу наладжваюцца ў Кіеве і Мінску. Такія выстаўкі робяцца традыцыйнымі. Не так даўно працоўныя беларускай сталіцы мелі магчымасць пазнаёміцца з творамі відных украінскіх мастакоў Т. Яблонскай, Г. Якутовіча, Я. Валабуева і іншых. У сваю чаргу, мы з радасцю чакаем выстаўку твораў беларускіх мастакоў у Кіеве.

**А. ШТАГАРЭНКА,**
старшыня праўлення Саюза кампазітараў УССР.

# ГЛЫБОКІЯ КАРЭННІ

МУЗЫЧНЫЯ здабыткі ўкраінскага і беларускага народаў — вялікія. Але яны сталі мажлівымі дзякуючы жыватворнаму ўплыву бессмяротных твораў Чайкоўскага і Мусаргскага, Скрабіна і Барадзіна, нашых сучаснікаў Шастаковіча і Хачатурана, Новікава і Салаўёва-Сядога і многіх іншых.

Творчыя ўзаемасувязі музычных культур Украіны і Беларусі асабліва моцныя і трывалыя. Глыбокія карэнні гэтай дружбы. Мы ганарымся тым, што яшчэ ў дакастрычніцкі час адным з папулярызатараў музыкі такіх выдатных нашых украінскіх кампазітараў, як М. Лысенка, М. Леантовіч, К. Стацэнка, С. Гулак-Арцямоўскі, стаў усімі намі паважаны Р. Шырма.

Але асабліва расквітнелі нашы сувязі пасля перамогі Кастрычніка, калі навек параднілíся нашы народы. І цяпер прыемна адзначыць, што за гады Савецкай улады беларускія кампазітары стварылі музычныя творы ўсіх жанраў — ад песні да балета і оперы. Асабліва радуюць нас творы выдатных майстроў музыкі — Р. Шырмы, Я. Цікоцкага, М. Аладава, А. Багатырова, а таксама сімфанічныя, фартэпіянныя і песенныя творы Ул. Алоўнікава, Г. Цітовіча, Д. Лукаса, Ю. Семянякі, І. Лучанка. Прасякнутыя шчырасцю і народнай цеплынёй, іх творы гучаць у нашых аркестрах, тэатрах, філармоніях, па радыё і тэлебачанні, у выкананні лепшых музыкантаў і спевакоў Украіны.

Агульныя для нас пытанні мы часта вырашаем разам, за адным сталом. Так, нядаўна ў Кіеве разам з беларускімі і малдаўскімі кампазітарамі мы правялі куставы пленум, на якім шырока абмеркавалі праблемы музычнай крытыкі і музыказнаўства.

А хіба не пра непарушную дружбу гаворыць і такі факт, калі мы разам шырока адзначалі юбілейныя даты армянскага класіка Камітаса Спендзіярава і грузінскага — Захарыя Паліяшвілі, калі шчыра віталі Рыгора Шырму з нагоды яго васьмідзесяцігоддзя.

Вялікай музычнай падзеяй у культурным жыцці нашай сталіцы былі дні музыкі Беларусі. Кіяўляне цэпла прынялі кампазітараў Беларусі Я. Глебава, Я. Цікоцкага, Г. Вагнера і І. Лучанка, якія выступалі летась перад працоўнымі Кіева ў гонар 50-годдзя СССР.

А неўзабаве ўкраінскія кампазітары давалі справаздачу перад працоўнымі Мінска.

Калі я гавару пра дружбу, мне прыемна ўсведамляць, што мяне асабіста звязвае шматгадовае братняе яднанне з Р. Шырмам, дружба з Я. Цікоцкім.

У развіццё нашых музычных культур вялікі ўклад зрабіў наш вядомы кампазітар П. Казіцкі, які апрацаваў для хору дзесяткі беларускіх народных песень.

Натхнёны подзвігам беларускага партызана Героя Савецкага Саюза Ц. Бумажкова, я напісаў пра яго харавую паэму.

Дружба наша загартавана ў працы і барацьбе. Нікому не разлучыць нас, бо мы — народы-браты, і словамі паэта я ад сэрца гавару:

І одне в нас в полі жито,
В нас пісні одні.

---

але чым далей, тым усё болей ператваралася ў краіну машынабудавання, пакуль не стала адной з самых развітых сацыялістычных рэспублік.

Нас радуе такая магутная хада братняга народа сінявокай сястры Беларусі. Даволі прывесці толькі дзве лічбы са статыстычных даных, каб сэрца забілася ад радасці: валавая прадукцыя Савецкай Беларусі яшчэ ў канцы сёмай пяцігодкі вырасла ў параўнанні з 1913 годам у 51 раз! Сілу для гэтага беларускі народ браў у дружбе сацыялістычных рэспублік, якая з'яўляецца асновай магутнасці Савецкага Саюза.

На высокі ўзровень узнялася і агульная культура Беларусі, у якой пачэснае месца займае літаратура і мастацтва, створаныя на прынцыпах сацыялістычнага рэалізму. Аздобаю іх стала творчасць патрыярхаў беларускай літаратуры і літаратур братніх народаў СССР Янкі Купалы і Якуба Коласа. Вялікаю папулярнасцю карыстаюцца іх імёны і на Украіне— як улюбёных аўтараў, так і дбайных перакладчыкаў твораў украінскай класікі і савецкіх пісьменнікаў.

Такой жа ўвагі заслужыла і беларуская літаратура ў пісьменнікаў Украіны. Яшчэ ў 1948 годзе выдавецтва «Дніпро» выпусціла аднатомную анталогію перакладаў беларускай савецкай паэзіі. Мы бачылі ў ёй творы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, М. Багдановіча, М. Танка, А. Куляшова.

Сапраўдным святам можна лічыць выпуск гэтым жа выдавецтвам двухтомнай анталогіі беларускай паэзіі пад рэдакцыяй М. Нагнібяды. У анталогіі пададзена каля ста імёнаў. Гэтая лічба таксама сведчыць пра велізарны рост беларускай літаратуры—як колькасны, так і якасны. Але, апрача таго, паводле сведчанняў геолагаў і іншых навукоўцаў, беларускія нетры і лясы захоўваюць незлічоныя багацці, таму ў рэспубліцы ёсць усе падставы голасна заяўляць:

Рабыня нядаўна, учора,
а сёння—сама сабе пані!

І мы ёй на гэта шчыра гаворым: «Шчасця табе, сінявокая Беларусь!»

---

**Васіль СІМАНЕНКА**

●

Колькі б не прыйшлося
гараваць мне,
ўсё адно благаслаўлю заўжды
Дзень той, калі ў свет пусціла
маці
Для жыцця, для шчасця, для
бяды.
Дзень, калі знячэўку мае губы
Грудзі мацярынскія знайшлі,
дзень, што мяне першым
прыгалубіў
Прамянёвай ласкаю з імглы.
Колькі ты мне выдзеліў
багацця,
Колькі шчасця, лёсе-
дабрадзей!
На зямлі і плакаць, і смяяцца,
І кахаць, і жыць сярод людзей!

**Мікола ВІНГРАНОЎСКІ**

●

Як толькі дзіцем
неўтаймоўным горад
Засне, нарэшце, неспакойным
сном,
Яна прыходзіць—сёння, як і
ўчора—
І штоначы шапоча пад вакном,
Каб я вяртаўся зноў на Украіну
Плугамі чарнакрылымі араць,
Тапаляняты ў полі палівацъ,
Зямлю, што называюць
тапалінай.
Бо час ідзе імкліваю ступою.
Дзе завязь, дзе свячэнне
пустацвету?
І той любоўю поўніцца
да свету,
Хто родны грунт адчуе пад
сабою.

Пераклаў В. РАГОЙША.

**Алесь ЖОЛДАК**

# КВЕТКІ БРАТЭРСТВА

Звонкагалосае, мілае беларускае слова мне змалку прыпала да сэрца, ды і не толькі мне, а і маім пабрацімам па творчай працы на Савецкай Украіне. Магутны спеў Янкі Купалы, Якуба Коласа, а за імі праўдзіва-суровыя, гартаваныя ў гневе да ворагаў і ў любві да нашай Радзімы песенныя радкі Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Канстанцыі Буйло, а таксама маладзейшых паэтаў — Антона Бялевіча, Пятра Прыходзькі, Анатоля Вялюгіна, Міколы Аўрамчыка, Рыгора Няхая не раз натхнялі мяне данесці іх словы да нашага ўкраінскага чытача.

Я радуюся таму, што дружба нашых братніх літаратур асветлена выдатнымі паэтамі савецкай літаратуры—Максімам Рыльскім, Паўлом Тычынам, Міколам Бажаном, Уладзімірам Сасюрам, Андрэем Малышкам, Тарэнем Масэнкам, якія паказалі ўзор мастацкага перакладу і пабрацімства паэтычнага слова. Асабіста для мяне творчыя пакуты прынесла нялёгкая, але ўдзячная праца над перакладам скарбаў народнай мудрасці— беларускіх прымавак і прыказак на ўкраінскую мову. Да таго ў розныя гады я з любоўю перакладаў палымяныя паэтычныя радкі Аркадзя Куляшова, Кастуся Кірэенкі і многіх іншых.

І пасля ўсяго зробленага хочацца сказаць вам, дарагія сябры, шчырае дзякуй за вашы вялікія творчыя дасягненні, якія ўзбагачаюць і нашу ўкраінскую літаратуру, умацоўваюць братэрства сям'і нашых савецкіх народаў.




Кнігі беларускіх пісьменнікаў на ўкраінскай мове.

# МОВАЮ ВЯЛІКАГА КАБЗАРА

Э. МАРТЫНАВА.

ПАЭТЫЧНАЯ пераклічка беларускіх і ўкраінскіх мастакоў слова даўно ўжо стала традыцыйнай.

Упершыню беларускія вершы загучалі па-ўкраінску ў 1909 г. Прыблізна ў тыя ж гады, нават крыху раней, пачала перакладацца на Беларусі і ўкраінская паэзія. Пачынальнікам гэтай справы быў Янка Купала, а першымі перакладзенымі творамі — вершы Т. Шаўчэнкі.

Пасля Кастрычніка нацыянальныя літаратуры, іх узаемасувязі развіваюцца і мацнеюць. І выключная роля ў гэтым працэсе належыць мастацкім перакладам. З кожным годам расце іх колькасць, і што асабліва важна, расце прафесійнае майстэрства перакладчыкаў, культура іх творчасці. Сёння ўжо можна гаварыць аб значных здабытках беларуска-ўкраінскага паэтычнага ўзаемаперакладу.

Нядаўна ў Кіеве ў выдавецтве «Дніпро» выйшла двухтомная анталогія «Білоруська радянська поезія».

Каб уявіць сабе маштабнасць гэтага выдання, цікава параўнаць яго з анталогіяй, якая выйшла ў 1948 годзе, да трыццатай гадавіны заснавання БССР. Тады ўкраінскія чытачы атрымалі вершы 22 беларускіх мастакоў слова — ад Янкі Купалы і Якуба Коласа да Анатоля Вялюгіна, аднаго з маладзейшых на той час паэтаў. У новую анталогію ўвайшлі творы 96 беларускіх савецкіх паэтаў, уключаючы і самых маладых, першыя зборнікі якіх убачылі свет у 1969-1970 гг.

Перад укладальнікамі анталогіі Анатолем Вялюгіным і Міколам Нагнібядой стаяла адказная і складаная задача—паказаць эстэтычнае багацце беларускай савецкай паэзіі праз усё найлепшае, што створана ў ёй за пяцьдзесят гадоў.

Анталогія сапраўды грунтоўна знаёміць чытача з поспехамі беларускай паэзіі, паказвае яе шырокі тэматычны дыяпазон, стылявую шматграннасць, высокі грамадзянскі пафас. Змешчаныя ў анталогіі вершы раскрываюць у значнай ступені індывідуальную своеасаблівасць паэтаў, жанравую разнастайнасць іх творчасці.

Многія беларускія аўтары атрымалі ў анталогіі «сваіх» перакладчыкаў. Ц. Гартнага і А. Гурло перакладае Ю. Пятрэнка, Зм. Бядулю — Б. Сцепанюк, А. Александровіча — В. Швец, М. Лужаніна — М. Рудэнка, В. Вітку — П. Варанько, А. Звонака — І. Драч, С. Дзяргая — А. Жолдак, Н. Гілевіча — В. Каротыч, Р. Барадуліна — Д. Паўлычка і г. д. Такі прынцып дае магчымасць перакладчыку не толькі глыбей «ужыцца» ў арыгінал, але і ўбачыць месца аднаго верша ў «кантэксце» ўсёй творчасці паэта.

«Білоруська радянська поезія» — вялікая праца вялікага калектыву, які аб'яднаў каля ста перакладчыкаў. Каб даць ёй усебаковую ацэнку, спатрэбілася б не адно даследаванне. Мы спынімся толькі на некаторых перакладах.

Адкрываецца анталогія вершамі Янкі Купалы. На Украіне Янку Купалу даўно лічаць сваім, родным. Расказваючы пра працу ўкраінскіх пісьменнікаў над перакладамі твораў беларускага песняра, Т. Масэнка пісаў, што яны добра разумелі, які ім «выпаў вялікі гонар — перакладаць песні найглыбейшага выразніка дум і жаданняў беларускага народа».

У анталогію ўключаны «Безназоўнае», «Тарасова доля», «Арлянятам», «Алеся», «Лён», «Беларускім партызанам» і інш. Сярод перакладчыкаў— імёны М. Рыльскага, У. Сасюры, Т. Масэнка, І. Муратава. Большасць твораў дадзена ў новых перакладах, выкананых А. Малышкам. У часе працы над перакладамі ён пісаў, што з вялікай пашанай узяўся за гэтую работу: «Яго паэзія блізкая і дарагая майму сэрцу. Калі я яшчэ і яшчэ раз учытваюся ў празрыстыя радкі купалаўскай паэзіі, яшчэ глыбей адчуваю, які ён быў вялікі паэт... Перакладаць такія творы цікава, бо гэта паэзія высокага напалу і палымянай душы». Малышка пранікае ў самую сутнасць купалаўскіх твораў, добра адчувае іх глыбокую народнасць, перадае іх музычны малюнак, сувязь з фальклорнай паэтычнай стыхіяй, бо і ў сваёй творчасці часта вельмі блізкі да народнай песні. Толькі часам ён ускладняе просты, празрысты купалаўскі радок, як, напрыклад, у «Алесі», хаця ўвогуле яна таксама перакладзена добра.

Паэма «Безназоўнае» даволі складаная для перакладу, асабліва яе гукапіс. У перакладзе І. Муратава даволі часта трапляюцца тэкстуальныя разыходжанні, але замены ў большасці сваёй удалыя. Цікава супаставіць выпадкі тэкстуальных разыходжанняў арыгінала і перакладу пры поўным захаванні метрыкі і сістэмы рыфмавання.

У арыгінале:

**А гоні ўжо узораны,**
**І сілы распакораны**
**Ад паншчынных бядот.**
**Чакаюць стравы жораны —**
**Зярняткаў незаморaных,**
**Чакаюць на ўмалот.**

У перакладзе:

**А гони вже розорані,**
**І панські сили зборені.**
**Й недавніі раби —**
**І жорна, вік не зморені,**
**На зерна чисті, зоряні**
**Чекають вже давно.**

У папярэдняй рэдакцыі трэці радок чытаўся так: «Втопили ми на дно» — захоўвалася рыфмаванне з шостым радком, як у арыгінале. З сэнсавага боку першы варыянт, як нам здаецца, таксама быў больш удалы.

У анталогіі значнае месца займае лірыка ваенных год і звязаныя з тэмай Айчыннай вайны творы апошняга часу.

З багатай на такія вершы творчасці П. Панчанкі ўкладальнікі ўключылі ў анталогію: «У мяне не забілі нікога», «Коні», «Дзеці вайны», «Байцу, што першым ступіў на беларускую зямлю» і інш.

У вершы «Коні» праз адзін канкрэтны эпізод паэт перадае трывожны, глыбока трагічны пульс вайны. М. Нагнібяда здолеў перадаць своеасаблівы каларыт верша: казачную маляўнічасць вобразаў, кантраст цудоўнага, нібы сон, малюнка і трагічную развязку.

**Імчаліся коні па травах, па кветках**
**Паслаліся дымам іх грывы на ветры.**
**І стрэлы замоўклі.**

У перакладзе:

**І мчали ті коні по травах пахучих,**
**По вітру послалися гриви, як тучі.**
**І постріли змовкли.**

Новыя, трагічныя ноты гучаць у канцы верша:

**А трэці, буланы, з крываваю ранай**
**Усё бегаў між куляў і сініх туманаў**
**З трывожным іржаннем.**

У перакладзе:

**А третій, буланий, мов студячи рани,**
**Гасав поміж куль у блакитнім тумані**
**З тривожним іржанням.**

Параўнанне «мов студячи рани», якое адсутнічае ў арыгінале, арганічна ўпісваецца ў панчанкаўскі верш. Перададзена перакладчыкам і рытміка-меладычная структура верша.

Дакладна адлюстраваны М. Рыльскім асаблівасці верша «У мяне не забілі нікога». Рыльскі адчуў і захаваў яскравыя зрокавыя вобразы, спакойную, «класічную» манеру аўтарскага пісьма. Вельмі шкада, што ў анталогію не ўключаны верш «Герой». Ён невялічкі, усяго 15 радкоў, а колькі ў ім сказана пра сапраўдны гераізм савецкага чалавека! Сказана па-панчанкаўску стрымана, лаканічна і ў той жа час яскрава. Пераклад, зроблены М. Шараметам, хвалюе гэтак жа, як і арыгінал.

У Панчанкі ёсць шэраг твораў, прысвечаных Украіне. Два з іх — «Кіеву» і «За Стрыем — горы» ўключаны ў анталогію. В. Швец перадае сардэчнасць, урачыстасць «Кіева», які гучыць гімнам старадаўняму і вечна маладому гораду. Хочацца толькі зрабіць адну заўвагу. У вершы ёсць радкі:

---

Яўген ГУЦАЛА

# ДВА АПАВЯДАННІ

## АЗОРАНАЕ СОНЦАМ

Хвіліна да хвіліны, дзень да дня— час ляжыць на берагах твайго жыцця сляпуча - белым пяском, нельга ў ім знайсці для сябе найбольш прыкметную пясчынку, нельга затрымаць позірку на самай яркай. І знянацку ў гэтым мёртвым хаосе заіскрыўся табе жоўта-зялёны крышталік, сонца ў ім затрымцела, пераліваючыся, — і ўжо ўвесь пясок нібы ажыў для цябе, бо ў ім выявілася тая жывая кропля, што абудзіла цябе.

Час — пясок сляпучы на берагах твайго жыцця. А ў саміх берагах — таямнічая плынь тваёй сілы, прагі тваёй, любові, імкненняў і мар. Ты думаеш пра ўсё гэта — і сэрца тваё забілася часцей, мацней, і нібы завіравала таямнічая плынь, узняліся на ёй і павышэлі хвалі страсцей, і ўзняла над яе паверхняю свае крылы вера. Вера — у беспачатковасць і бясконцасць, у тую зменлівасць тваёй істоты, якая раптам адкрывае перад табою зродненасць тваю з кожнай былінкаю, блізкасць тваю да ўсяго існага...

У тым чорным лесе (год таму ці два, а ўсё гэта бачыцца ўжо быццам з найдалейшай далі) святло стаяла яснае і крыху вільготнае. Яшчэ нядаўна вясна толькі надыходзіла, грузнучы ў пацямнелых снягах, дыхала туманамі, пускала з пагоркаў зеленавата-белыя струменьчыкі ручаінак; яшчэ нядаўна яна толькі адчувалася ў пацямнелай свежасці паветра, у пабліску набрынялай кары на дрэвах, у тым, як увечары пахне сцяжынка, што вылезла з-пад снегу і ад лёгкага замаразку ўкрываецца застылым трымценнем халодных павуцінак. Яшчэ нядаўна...

А вось стаіць паміж небам і зямлёю велізарная празрыстая хваля, агарнуўшы сваёй млоснасцю чорныя, яшчэ голыя, дрэвы, плыткія ярочкі, схілы якіх засыпаны пабурэлым лісцем; цябе самога заліла (і ты адчуваеш дотык гэтай хвалі на вачах, на брывах, на вуснах, ты нібыта нясеш яе на сваіх плячах, ты быццам расхінаеш яе сваімі грудзьмі); і тая жанчына, з якою ты разам збіраеш ландышы і якая, адстаўшы, ідзе праз вунь той лісцяны клін, таксама заліта хваляю празрыстага ззяння.

Відаць, што тут ужо нехта пахадзіў, бо многа спічастага лісця ландышаў, але кветак няма, нават яшчэ не раскрытых. Там-сям натрапляеш на сарваную сцяблінку, на ёй бялеюць два ці тры маленькія вочкі, — беднаю здалася камусьці гэтая кветка, выкінулі... Берасты і грабы стаяць нерухома, і, калі спускацца ўніз, нібы малее і малее сонца, яно быццам па-ранейшаму вунь там, на ўзгорку, дзе засталася жанчына. Я раз-пораз пазіраю на яе — яе чырвоныя валасы распушаны, здаюцца амаль нябачнымі, яны падобны на німб вакол яе галавы.

Паблізу лясной сцежкі, па якой амаль не ходзяць, паміж тонкіх шабелек травы я нечаспадзявана натрапляю на белыя вачаняты ландышаў — за лісцем яны ледзьве прыкметныя, а калі нагнуць лісце, калі зазірнуць пад кусточкі з розных бакоў, то раптоўна сустракаешся з іх чыстымі позіркамі. Пахнуць гэтыя кветкі ці не? Быццам бы не, хоць і ідзе ад іх дух насычанай вадою раслі... Вось яно што: пахнуць нядаўняю зімою, холадам.

Набраўшы маленькі букецік, нясу яго жанчыне, якая прыхінулася спіною да ствала дрэва і глядзіць угару. Па яе абліччы нельга здагадацца, пра што яна думае, — абліччa спакойнае і бесклапотнае. Я задзіраю галаву — на што яна глядзіць? — але верхавінка граба не скалыхнецца, неба пустэльнае, нідзе нічога, хіба што вось гэтая дзівосная цяплынь, якая запаланіла ўсю прастору, запоўніла яе. І чым бліжэй я падыходжу, чым лепей бачу гэтую жанчыну, тым меней здаецца яна асветленай сонцам, і ўжо няма ў яе паставе той таямнічасці, якую надае адлегласць. Здалёк яна была бліжэй да мяне, яна амаль належала маім пачуццям — згадкам, а тут, поруч, я заўважаю на яе абліччы нейкі чужы, невядомы мне выраз. Дзе яна зараз была, пра што думала?

Мы гаворым адно аднаму нейкія словы — пра гэтыя ландышы, пра гэтае надвор'е, пра лес гэты, але і яны, мабыць, не могуць пераадолець тую раптоўную адлегласць, якая неспадзявана вырасла, калі я падышоў да яе.

Мёртвае лісце шапоча пад нагамі — колькі яго, гэтага шолаху, гэтага шуму, які яшчэ нядаўна быў зялёны, які яшчэ нядаўна лунаў па дрэвах, і яны песціліся ў ім, плылі ў ім! А зараз яны распранутыя і пахмурныя, і не верыцца, што зноў да іх вернецца мінулагодні шум, лісце яго, што ўсё ўвогуле здольна паўтарыцца...

Я хаджу па лесе, збіраю ландышы, жанчына прытамілася, яна села на пяньку пасярод шырокай паляны. Шукаючы кветкі, я ўвесь час пазіраю на паляну, каб не адысці далёка, каб не заблудзіцца. І ўсё ж ландышы мяне падводзяць. Адкуль іх столькі набралася ўздоўж яру — у бліскучым зялёным шумавінні, яны паглядаюць расквітнелымі сваімі вачыма, і гэтыя вочы аж надта расплюшчыліся, каб ва ўсёй паўнаце ўспрымаць

# НАРОД У ГІСТОРЫІ

**ДЫЛОГІЯ ІВАНА МЕЛЕЖА ВЫЛУЧАНА НА АТРЫМАННЕ ЛЕНІНСКАЙ ПРЭМІІ**

НАШ БЕЛАРУСКІ «сялянскі», «традыцыйны» раман неяк непрыкметна выйшаў на перадавыя рубяжы літаратуры сацыялістычнага рэалізму і па праве заняў «свой пачэсны пасад між народамі». Адно з першых месц у нашай сучаснай раманістыцы займае «Палеская хроніка» Івана Мележа.

Раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» заваявалі шчырую любоў чытача, набылі вялікі грамадскі рэзананс. Пра іх ужо многа і хараша пісала і наша, і ўсесаюзная, і замежная крытыка, бо сапраўды раманы гэтыя—«дасягненне ўсёй нашай саюзнай літаратуры, літаратуры сацыялістычнага свету» (Г. Маркаў).

Ужо можа здацца штампам выводзіць радаводную нашых дзеячоў культуры ад сялянскай торбы і лапцей, пугі і свіней на выгане. Аднак усё гэта было. Была торба і пуга, была бязмежная твань, якую давялося памясіць лапцямі, ідучы за многа кіламетраў «у навуку». Жыццёвы шлях І. Мележа не вельмі «арыгінальны», ён у пэўнай ступені тыповы для людзей яго пакалення. Дзесяцігодка. Камсамольская работа. Вайна. Цяжкае раненне. Вучоба ва універсітэце... І праца, праца, праца!..

Патрэбны быў, відаць, і такі шчаслівы збег абставін, каб на пачатку творчага шляху яго горача падтрымалі такія людзі, як К. Чорны, і крыху пазней—А. Фадзееў. Аднак на пачатку важней за ўсё была вера ў сябе, цвёрдасць духу і вялікая неадольная прага пісаць.

Ці сніў нават малады вясковы хлопец, калі пісаў свой першы рытарычна-пафасны верш «Радзіме», што сваё непаўторна-самабытнае слова пра Радзіму, пра свой народ ён скажа тады, калі пасля доўгіх і нялёгкіх пошукаў прыйдзе... да прастаты і натуральнасці, сплаўленай з глыбокім роздумам і някідкай на першы погляд паэзіяй. Не так скора прыйшло мудрае ўсведамленне, што галоўнае ў творчасці—смялей дзяліцца з чытачом скарбамі сваёй душы, смялей і праўдзівей раскрываць сваё сэрца.

Ад твора да твора, ад кнігі да кнігі І. Мележ цярпліва і настойліва шукаў свой, толькі яму ўласцівы шлях у літаратуры.

Не трэба, думаю, глядзець на ўсю яго папярэднюю творчасць як на нейкі «просты і роўны» шлях, а ўсе ранейшыя творы лічыць як бы «загатоўкамі» да «Палескай хронікі». Дарога ішла і «няпроста і няроўна» (І. Мележ), былі на ёй ямы і калдобіны, але—галоўнае!—яна ішла ўгору, да той запаветнай песні, да той усенароднай кнігі, якой ужо стала «Палеская хроніка». Многія з ранейшых твораў маюць самастойнае значэнне, у іх ёсць свае мастацкія вартасці. Але для нас важна і тое, што кожны твор, нават і не зусім удалы, быў школай пісьменніцкага майстэрства, якое з выключнай сілай праявілася ў «Хроніцы».

Раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» яшчэ раз напомнілі, што адной з самых важных (калі не самай важнай) задач сапраўднай літаратуры было і ёсць асэнсаванне народнага характару ва ўсёй яго шматграннасці, у яго нацыянальнай сутнасці, у тым самым патаемным, самым запаветным, што дазваляе зразумець месца і шляхі народа ў гісторыі. І. Мележ імкнуўся паказаць, як паводзіў сябе наш нацыянальны характар у вялікіх пераломных гістарычных падзеях, даць аналіз інтэлектуальнага, духоўнага жыцця нацыі і «сказаць усю праўду не ў імя абстрактнага праўдашукальніцтва, а для высвятлення вытокаў тых працэсаў, якія праходзяць у душах сягонняшніх людзей» (І. Мележ).

Дакладнасць Мележавай мастацкай думкі вяла да дакладнасці ў слове. Сур'ёзнасць жа гэтай аўтарскай думкі, якая ўсё вымярае народнаю меркаю і таму не імкнецца выдаваць сябе «звышнаватарскай», вяла да спакойнага, «дзелавога» тону. Галоўнае ж у гэтым тоне—шчырасць і натуральнасць, што ішлі ад шчырасці, пачуцця, ад маральнага, душэўнага зліцця з матэрыялам. Я ўжо не гавару пра натуральнасць і неабходнасць кожнага элемента ў мастацкай структуры раманаў. Яны напісаны так, што бяруць у палон, захапляюць і радуюць не толькі тых, хто ўспрымае творы мастацтва наіўна-рэалістычна, але нават самых вытанчаных крытыкаў — яны забываюць пра «філасафізм», «інтэлектуалізм» і г. д. І прастадушна гавораць пра «цуд»— знікаюць, маўляў, радкі, а перад табою «плешчацца само жыццё».

А гэта ж і сапраўды так. Напісаны раманы на тым найвышэйшым узроўні майстэрства, калі і майстэрства не заўважаеш. Якую радасць, якую эстэтычную асалоду адчувае той чытач, які спасцігае ўсю глыбіню ідэйна-мастацкай канцэпцыі гэтых раманаў, адчуе іх паэтычную атмасферу.

Колькі святой сыноўняй любві да роднае зямлі, да чалавека працы ў гэтых раманах! Якое багацце чалавечых натур, непаўторных, арыгінальных мастацкіх характараў!

І. Мележ назваў свой твор сціплым словам «хроніка». І яна б засталася «няхітрай хронікай», нягледзячы на ўсе праблемы (цікавыя, важныя, балючыя...), калі б са старонак яе не паўсталі як жывыя і «прыгожая і калючая кветка палескай шыпшыны» Ганна са сваёй мілай гарэзлівай усмешкай, у якой столькі няўлоўных пераходаў, і маўчун Васіль з яго моцна сціснутымі вуснамі, з той вечнай тугой па зямлі і з той незвычайнай любасцю да працы, калі б не пачулі мы бестурботны на першы погляд рогат горкага бедняка і вялікага жыццялюба Хоні, не зжахнуліся той бездані, у якую трапіла даверлівая ў сваім сляпым і горкім каханні Хадоська-Канапляначка...

Менавіта гэтае пранікненне ў глы-

# МАЛЕНЬКІЯ ГЕРАІНІ ВЫРАСЛІ...

Імя беларускага кінарэжысёра Льва Голуба добра знаёма кінагледачам усіх пакаленняў. Нядаўна ў Мінску адбылася цікавая сустрэча — пабачыць свайго першага рэжысёра сабраліся ўдзельнікі розных яго фільмаў. Маленькія дзяўчынкі, былыя гераіні яго стужак, якіх ён адабраў з соцень і тысяч дзяцей, зноў у Мінску. Яны падраслі. Але для кожнай з іх, відаць, на ўсё жыццё застануцца ў памяці тыя размовы, парады, цяжкія і бясконца цікавыя дні і месяцы здымак...



На нашым здымку побач з Львом Уладзіміравічам вы бачыце Таню Бейнаровіч і Аню Камянкову, якія выконвалі галоўныя ролі ў карціне «Дзяўчынка шукае бацьку». Свету Карасцеліну і Олю Коршун—удзельніц фільма «Анюціна дарога».

Як складаецца іх лёс? Аня Камянкова (Леначка, тая самая дзяўчынка, што шукала бацьку), зараз студэнтка тэатральнага інстытута імя Шчэпкіна ў Маскве. Апошняя яе работа ў кіно — дубляж ролі Джульеты ў фільме англійскага рэжысёра Дзэфірэлі «Рамеа і Джульета». Таня Бейнаровіч (Нюшка-Шуматоха) зараз сама ўжо маці. Жыве ў Мінску. Света (Анютка) і Оля (Цішка) яшчэ вучацца ў школе. Яны мараць стаць артысткамі.

Фота А. ЛАСМІНСКАГА.

# ВЫСТУПАЮЦЬ КРЫНІЧАНЦЫ

Вось ужо некалькі год пры Бярозаўскай раённай газеце «Маяк камунізма» працуе літаратурнае аб'яднанне «Крыніца». Мінулы год быў для нас плённы. Маладая паэтэса Ніна Мацяш падрыхтавала новы паэтычны зборнік «Удзячнасць», пераклала вершы французскай паэтэсы Элізы Мішэль і апублікавала іх у зборніку «Паэты Парыжскай камуны».

Аповесць крынічанкі Зінаіды Вільнер «Я люблю вас...» апублікавана ў часопісе «Уральский следопыт».

Члены аб'яднання падрыхтавалі дванаццаць выпускаў літаратурнай старонкі, правялі ў раённым доме культуры літаратурны вечар, прысвечаны XXIV з'езду КПСС. Міхась Авінаў, Алесь Разанаў, Канстанцін Дронь, Кацярына Сініцкая і Маргарыта Казловіч выступалі па тэлебачанні. З вялікай карысцю для крынічанцаў прайшлі сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі Андрэем Макаёнкам, Георгіем Паповым, Алесем Махначом, Алесем Шашковым і іншымі.

Літаб'яднанне вядзе працу з новымі аўтарамі. Летась у «Крыніцу» прыняты вучаніца Міжлескай сярэдняй школы Марыя Зубель і Валерый Смірноў з Бярозы. Добра сябе зарэкамендавалі тэлемайстар Ігар Якаўлеў і настаўніца Панасавіцкай васьмігадовай школы Марыя Гугнюк.

Многія крынічанцы цяпер жывуць за межамі раёна, але прысылаюць у газету свае творы — вайскоўцы Алесь Разанаў і Васіль Гарох, служачая з Брэста Зінаіда Дудзюк, студэнт БДУ імя У. І. Леніна Васіль Карпінчык.

Нядаўна крынічанцы зноў сабраліся, каб пагаварыць пра сваю работу, падзяліцца творчымі планамі, прачытаць новыя творы. Свой справаздачны літаратурны вечар крынічанцы прысвяцілі 50-годдзю ўтварэння СССР.

**Я. СЯЛЕНЯ,**
**кіраўнік літаб'яднання «Крыніца».**

**У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

*Прашу перадаць праз Вашу газету маю шчырую ўдзячнасць арганізацыям, бібліятэкам, школам, чытачам, пісьменнікам — усім, хто прыслаў мне добрыя пажаданні з нагоды майго шасцідзесяцігоддзя.*

**Ул. КАРПАЎ.**

**ПЯЦІГОДКА, ГОД ДРУГІ**

# СЛУЦКІ

*Дзень другі*

## ПРАБЛЕМЫ, ПОШУКІ

Уладзіміру Раманавічу Паську пазванілі з райкома камсамола. Да іх прыйшла дзяўчына, якая мае музычную адукацыю, шукае работу, мо аддзел культуры дапаможа?

Уладзімір Раманавіч, павесялелым голасам:

— Скажыце, хай бяжыць да нас.

Праз некалькі хвілін настойлівы стук у дзверы. Высокая дзяўчына ў максі-паліто, са шчодра намаляваным тварыкам бесцырымонна пытаецца:

— Дык у вас ёсць што-небудзь для мяне?

— А кім бы вы хацелі працаваць?

— Мне ўсё роўна...

— Даруйце, што ж вы ўмееце рабіць? — пытаецца Уладзімір Раманавіч, але па твары бачу, што цікавасць яго да гэтай наведвальніцы з кожнай хвілінай меншае.

— У Чэбаксарах скончыла адзін курс музфака педінстытута, затым пакінула.

— Чаму?

— Там вельмі слабыя педагогі. Вось і прыехала дамоў. Тут, у Слуцку, жывуць мае татачка і мамачка...

— Кіраўніком мастацкай самадзейнасці паедзеце?

— Гледзячы куды. Начаваць я хачу дома.

— Э, не, — гаворыць Пасько.— Уся работа культработніка па вечарах. Здымеце на месцы кватэру — мы дапаможам, — а ў выхадны будзеце прыязджаць дамоў.

— Гэта не па мне, — гаворыць дзяўчына і, крутнуўшыся на абцасах, выходзіць.

Уладзімір Раманавіч доўга глядзіць у акно, барабаніць пальцамі па стале.

— Бачылі птушку? — гаворыць ён нарэшце. — Я, прызнацца, і задаволены, што не згадзілася. Карысці з яе... Мая глыбокая перакананасць — там будзе работа, дзе кадры аседлыя. Вось наш калгас «1-е Мая» вырашыў рыхтаваць культработнікаў, як рыхтуе спецыялістаў сельскай гаспадаркі. На калгасную стыпендыю. Будзе пасылаць здольных хлопцаў і дзяўчат у музычныя вучылішчы. За ім і іншыя гаспадаркі пацягнуліся. У гэтым годзе ўжо думаем паслаць чалавек дзесяць.

І яшчэ ёсць у нас план — у бліжэйшыя гады забяспечыць усіх культасветработнікаў уласным жытлом. Вельмі гэта важна. У Бокшыцах зроблена ўжо...

Уладзімір Раманавіч у Слуцку старажыл. Трынаццаць гадоў стаіць на чале аддзела культуры райвыканкома. Ёсць у гэтым свае плюсы і мінусы. З аднаго боку— людзей усіх ведае, абстаноўку... З другога — у чалавека, што доўга сядзіць на адным месцы, бывае, губляецца вастрыня ўспрыняцця. Дзіва што — кожны дзень, кожны год адны і тыя ж клопаты. А фінал —быў дзеяч і не стала—цякучка заела.

Мы да гэтага з Паськом адзін раз бачыліся, ды і то мімаходзь. Як след і не пагутарылі. Цяпер ішоў і баяўся, ці атрымаецца размова.

Пасля пашкадаваў, што няма ў нас, газетчыкаў, такой завядзёнкі ды і магчымасцей вазіць з сабой магнітафон, Дальбог, цікава слухаць Паська. Думае ён не трафарэтна, бачыць далёка і, галоўнае, гаворыць шчыра...

Паспрабую перадаць расказ Уладзіміра Раманавіча. Магчыма, не ўсе высновы яго бясспрэчныя, не ўсе думкі досыць абгрунтаваныя — так бывае заўсёды, калі чалавек шукае, думае. Няхай не бянтэжыць чытача і некаторая фрагментарнасць, незакончанасць асобных кавалкаў, і тое, што няма пераходу паміж асобнымі думкамі — гутарка была жывая, тэмпераментная, не падрыхтаваная загадзя.

— Пра ўзровень культуры ў нас, часам, мяркуюць толькі па эфектных прыкметах — раён заваяваў добрае месца на абласным ці рэспубліканскім аглядзе мастацкай самадзейнасці, у калгасе пабудаваны шыкоўны палац культуры з мазаічным пано, паркетам ды паліраванай мэбляй...

Я быў сведкам, як на аглядзе хлопцы-танцоры (праўда не з нашага раёна, але такое магло здарыцца і з нашымі), якія толькі што бліскуча выступілі, брудна лаяліся за кулісамі, а дзяўчаты з таго ж калектыву тут жа лузгалі семкі і кідалі шалупінне на падлогу.

Ці не выпускаем мы з поля зроку фарміраванне, калі можна так сказаць, унутранай культуры людзей? Тое, што не паддаецца ўліку, што не паставіш у графы справаздачы?

Мы маем значныя здабыткі ў развіцці матэрыяльнай культуры.

...Тэлевізар называюць акном у шырокі свет. Сядзі сабе дома і глядзі кіно, тэатральную пастаноўку, цыркавое прадстаўленне, лекцыю... Здорава! А мяне ўсё гэта апошнім часам трохі непакоіць. Нешта, бачу, пачалі людзі радзей бачыцца адзін з адным, збірацца разам. Вечарам усе па хатах ха-

біні народных характараў і народнага духу і робіць раманы І. Мележа найбольш значнай падзеяй нашай сучаснай прозы. Гэта не азначае, вядома, што яго не цікавяць тыя складаныя сацыяльна-эканамічныя працэсы, якія адбываліся ў вёсцы 20—30-х гадоў. Усё ў гэтых раманах падпарадкавана галоўнаму—таму, што вызначала рух вялікіх сацыяльных падзей эпохі, творы гэтыя вызначаюцца сапраўдным гістарызмам. Менавіта «Палеская хроніка» даказала, што самы тонкі псіхалагічны аналіз можа стаць дзейсным толькі тады, калі за ім выяўляецца глыбокая сувязь паміж унутраным жыццём герояў і праблемамі свайго часу.

І. Мележ даваў вельмі глыбокі і тонкі псіхалагічны аналіз, а праз яго высвятляў і сацыяльную падаплёку чалавечых паводзін, паказваў, наколькі апасродкавана праяўляецца гэтае сацыяльнае, як яно пранікае ў самае патаемнае ў чалавеку. Таму яго творы і не трацяць жывога адчування жыцця.

Сапраўдная літаратура вырастае з патрэб жыцця свайго народа, але ніхто, вядома, не аспрэчвае таго ўплыву, які робіць на мастака ўся сусветная літаратура. Цяпер, скажам, у кожнага персанажа ў многіх творах «на тэму калектывізацыі» можна адшукаць «штосьці падобнае» да герояў М. Шолахава. Міканор «напамінае нечым Нагульнага»? Магчыма. За любым вобразам у любым творы нашай многанацыянальнай літаратуры стаяць у пэўнай ступені аднолькавыя сацыяльна-гістарычныя і маральна-псіхалагічныя праблемы. Аднак вырашаюцца гэтыя праблемы праз мастацкае асэнсаванне жыцця свайго народа на пэўным гістарычным адрэзку, у яго непаўторным духоўна-нацыянальным абліччы, праз даследаванне самабытных нацыянальных мастацкіх характараў. Міканор — мастацкае адкрыццё Мележа, за яго вобразам—арыгінальная мастацкая канцэпцыя чалавека.

З болем адрываў ад сябе друз векавых звычак, ламаў сваю натуру Васіль, і ў сацыяльна-гістарычным сэнсе ён паўтараў пакуты многіх герояў літаратур народаў СССР. Але ён не паўтараў іх як мастацкі характар — самабытны, непаўторны.

Ёсць штосьці падобнае ў драматычным лёсе Ганны з трагедыяй Аксінні. Аднак галоўнае, што ў іх ёсць агульнае, што дазваляе нам з гонарам паставіць іх побач—гэта шматграннасць, аб'ёмнасць, маштабнасць, жыццёвая пераканаўчасць гэтых мастацкіх вобразаў.

Такога ж характару, як Апейка (маю на ўвазе не толькі яго агульнажыццёвую, але і эстэтычную значымасць) у літаратуры нашай не было яшчэ. Вобраз Апейкі—новае слова ў савецкай раманістыцы. Апейка чалавек дзеяння—рэвалюцыйнага, стваральнага дзеяння. Але як смела, чэсна, з пачуццём вялікай грамадзянскай адказнасці думаў ён пра заблытаныя, складаныя, супярэчлівыя з'явы ў тагачасным жыцці...

Раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» І. Мележа—найбольш значнае дасягненне сучаснай беларускай прозы, сцвярджэнне таго высокага ўзроўню, якога дасягнула наша літаратура. Раманы І. Мележа—тыя кнігі, якія праходзяць праверку часам і застаюцца ў духоўным набытку народа і чалавецтва.

Г. ШУПЕНЬКА.

Хаця, з другога боку і нас, культработнікаў, гэта ў нечым падсцёбвае. Сёння на абы што людзей у клуб не паклічаш. Калі фільм, дык давай самы новы, канцэрт — дык сталічных артыстаў.

Шукаем новыя формы работы. Я летась быў на нарадзе ва Ульяну́ску. Там адзін таварыш, здаецца з Украіны, расказваў, што ў іх практыкуюць чатырохкомплексныя ўстановы культуры. Гэта клуб разам з музеем, бібліятэкай і музычнай школай ці яе філіялам.

З гэтага года ў парадку эксперыменту зробім у некаторых кал-

М. ЗАМСКІ

# ДЗЁННІК

гасах такія цэнтры. Паглядзім, мо спадабаецца.

Наогул, я за тое, каб заўсёды шукаць, спрабаваць. Узяць брыгадныя клубы, што на бюджэце калгасаў. Як правіла, працуюць яны дрэнна. Цвёрдай стаўкі загадчыку няма. Адна гаспадарка плоціць 20 рублёў, другая 25, трэцяя — 30 рублёў. Выкарыстоўваюць загадчыка, як каму ўздумаецца. Пачынаюцца палявыя работы, дык ты яго ў клубе і не пабачыш ніколі. Ды і ён сам адказнасці ніякай не адчувае.

Хіба б не было разумна, каб тое ж Міністэрства сельскай гаспадаркі зацвердзіла цвёрдую стаўку загадчыку брыгаднага клуба, як аграному, ці бухгалтару? Трэба ўзнімаць гэтае пытанне, а то толку не будзе.

Наогул, хачу сказаць, што так званыя культурна-бытавыя фонды ў калгасах у большасці гаспадарак выкарыстоўваюцца на што хочаш, толькі не на культуру. Выхад? Стварыць міжкалгасны савет па культуры. Каб меў ён фонд, у які б ад кожнага калгаса ішлі грашовыя адлічэнні. Адным словам, цэнтралізаваць усю справу. Савет будзе запрашаць артыстаў, лектараў, арганізоўваць у гаспадарках розныя культурныя мерапрыемствы, праводзіць метадычную работу.

Мы ўсё гэта абгаварылі ў райкоме партыі, будзем арганізоўваць...

...А вось яшчэ падкіну я вам адну праблемку. Каб хто ведаў, як яна нам даецца ў знакі. Паслухайце. Калі клубнае памяшканне мае памер 250—300 квадратных метраў, дык гэта ўжо сельскі дом культуры. Калі, скажам, 245 метраў, дык проста сельскі клуб.

Спытаеце, якая розніца, як называцца? Дык жа штаты розныя.

У штаце сельскага дома культуры ёсць мастацкі кіраўнік, тэхнічка. У штаце клуба толькі загадчык.

Быў у нас у пасёлку Кірава добры сельскі дом культуры. Вялікую работу вёў. Але, як кажуць, быў ды сплыў. Прыехала рэвізія, якая вызначыла, што не хапае дому сямі метраў, каб домам культуры называцца. А калі так, дык скарацілі пасаду мастацкага кіраўніка. Фармалізм, чысты фармалізм. Або вось узяць яшчэ такое...

ВЦСПС зараз праводзіць сацыялагічнае даследаванне развіцця культуры. Разаслалі па асяродках культуры анкеты з дзесяткамі пытанняў. Ёсць там і такое, як быццам бяскрыўднае пытанне — колькі месц у вашым клубе, доме, палацы культуры. Здаецца, падлічы, колькі крэслаў у зале і той справы. Дык нельга ж. Вядзём цэлы пераразлік. Некалькі гадоў таму каэфіцыент на адно месца складаў 0,50 метра. Зараз ужо 0,75. Бяры ўсю плошчу глядзельнай залы і дзялі на 0,75. Скажам у Ізбудзешчанскім брыгадным клубе стаіць 130 крэслаў, а лічым толькі 90. Так і ў справаздачах пішам. Атрымліваецца, што за год мы не прыбавілі глядзельных месц, а, наадварот, некалькі соцень іх страцілі. Між тым за мінулую пяцігодку ў раёне пабудавана 24 асяродкі культуры. За гэтую яшчэ 14 клубных устаноў на 4075 месц будзе ўзведзена.

..Будуем, кажу я, шмат. А вось на пытанне, ці добра будуем, станоўчага адказу даць не магу. Вялікая ў мяне крыўда на архітэктараў, што праектуюць сельскія клубы. Хай бы тыя архітэктары калі паклікалі да сябе нас, раённых работнікаў культуры, і спыталі, што, маўляў, вы думаеце пра нашы праекты. А думаем мы, што робяцца яны абы з рук. Грошы вялікія, а карысці... Пабудавалі дамы культуры ў калгасах імя Дзяржынскага, імя Энгельса... Сцэна — ні кішэнь для дэкарацый, каласнікі не ўстановіш, няма падсобных памяшканняў, пакояў для работы гурткоў. У клубе, што ў вёсцы Селішча, наогул не прадугледжана абсталяванне сцэны.

...Перачытаў гэты дзённікавы запіс і трохі стала ніякавата—ці не выглядае Уладзімір Раманавіч гэткім зацятым песімістам і скептыкам? Бывае ж, калі справа не ладзіцца, пачынаеш вакол шукаць вінаватых. Хачу падкрэсліць — справы тут ідуць няблага. Можна падмацаваць гэта і лічбамі. У раёне працуе больш двухсот калектываў і гурткоў мастацкай самадзейнасці. 64 бібліятэкі маюць кніжны фонд у 337 609 тамоў. К канцу пяцігодкі случчане мяркуюць давесці кніжны фонд да 600 тысяч тамоў — па 10 на кожнага жыхара. І яшчэ пад заслону — летась пытанне пра развіццё культуры раёна ставілася на разгляд пленума райкома партыі. Работа райаддзела культуры атрымала станоўчую ацэнку.



# НАСТАЎНІК І ТВОРЦА

СТАГОДДЗЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Васіля Андрэевіча ЗАЛАТАРОВА

МУЗЫЧНАЯ грамадскасць адзначае 100-годдзе з дня нараджэння Васіля Андрэевіча Залатарова — кампазітара, народнага артыста БССР, заслужанага артыста РСФСР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, прафесара.

Успамінаецца чалавек невысокага росту, сарамлівы, з заўсёды дапытлівым поглядам жывых вачэй. Нібыта чуецца яго па-юнацку вясёлы, гарэзлівы смех. Бескампрамісны, нязменна ветлівы, добразычлівы, крыштальнa-чысты, выхавацель цэлага пакалення нацыянальных кампазітараў і музыказнаўцаў, выдатны прапагандыст лепшых традыцый рускай музычнай класікі. Такі ён быў, наш настаўнік.

Сучаснік П. Чайкоўскага, вучань М. Балакірава і А. Лядава па Прыдворнай пеўчай капэле ім. Рымскага-Корсакава, па Пецярбургскай кансерваторыі, якую, дарэчы, ён скончыў з прэміяй імя Антона Рубінштэйна, блізкі сябра С. Танеева і А. Глазунова, член «Бляяеўскага гуртка» — В. Залатароў шмат часу аддаваў педагагічнай дзейнасці. Да прыезду ў Беларусь ён працаваў у Кубанскай і Адэскай кансерваторыях, у Кіеўскім музычна-драматычным інстытуце, у Свярдлоўскай кансерваторыі. І ўсюды Васіль Андрэевіч пакідаў яркі след.

Педагагічная дзейнасць В. Залатарова ў Мінску пачалася ў трыццатыя гады. Ён кіруе тэарэтыка-кампазітарскай кафедрай кансерваторыі і вядзе клас кампазіцыі. Многія вучні В. Залатарова — А. Багатыроў, В. Яфімаў, А. Зорын, М. Крошнер, П. Падкавыраў, А. Папоў, Л. Абеліёвіч, М. Вайнберг, І. Жыновіч, Д. Лукас і іншыя вядомыя музычныя дзеячы — паспяхова працуюць у розных рэспубліках.

Патрабавальны да сябе, ён вучыў і сваіх студэнтаў суровай патрабавальнасці да сваёй творчасці. Васіль Андрэевіч заўсёды прайграваў работы сваіх выхаванцаў, падкрэсліваючы найбольш удалыя месцы, усяляючы надзею і ўпэўненасць. Заўвагі яго былі дакладныя, трапныя, вобразныя, абгрунтаваныя. Ён спасылаўся на прыклады з класічнай літаратуры. Часам сам ствараў узоры для сваіх студэнтаў. Так, успамінаецца, што ў перыяд работы над жанрам варыяцый у 1933 годзе Васіль Андрэевіч напісаў праграмныя варыяцыі на тэму беларускай народнай песні «Бачыць маё вока, што край недалёка». Потым ён выкарыстаў гэтыя варыяцыі ў сваёй сімфоніі «Беларусь».

В. Залатароў заўсёды надаваў велізарнае значэнне тэкстам, на якія будучыя кампазітары павінны былі пісаць музыку вакальных твораў. Ён выхоўваў у сваіх вучнях любоў да нацыянальнай паэзіі, да роднай песні. Выхаванцы В. Залатарова П. Падкавыраў і М. Крошнер першымі са студэнтаў кансерваторыі скіраваліся на Палессе запісваць беларускія народныя песні.

У класе В. Залатарова народная творчасць старанна вывучалася і аналізавалася. Народная беларуская песня і па гэты дзень шырока выкарыстоўваецца ў творчасці яго вучняў.

Асаблівую ўвагу надаваў В. Залатароў агульнаму развіццю сваіх студэнтаў. Ён лічыў, што толькі ўсебакова адукаваны, інтэлектуальны, інтэлігентны чалавек можа стаць сапраўдным музыкантам. Многія вучні Васіля Андрэевіча па яго парадзе спявалі ў студэнцкім хоры, ігралі ў студэнцкім аркестры.

У 30-я гады ён стварыў шэраг яркіх твораў на народна-песеннай аснове: Чацвёртую сімфонію «Беларусь», сімфанічную «Беларускую танцавальную сюіту», харавыя і камерна-інструментальныя творы, апрацоўкі фальклору. Ён заклаў аснову нацыянальнай кампазітарскай школы. Васіль Андрэевіч падышоў прынцыпова па-новаму да выкарыстання фальклору, узбагачаючы народныя напевы яркімі гарманічнымі спалучэннямі сучаснай прафесійнай музыкі. Менавіта ён упершыню ў рэспубліцы выкарыстаў паліфанізацыю харавой тканіны акапэльных палотнаў, створаных на аснове аднагалосых народных напеваў. Гэтыя прынцыпы знайшлі шырокае развіццё ў музыцы нацыянальных кампазітараў рэспублікі і ў пасляваенныя гады і ў творчасці, калі можна так сказаць, яго «ўнукаў» — вучняў прафесара А. Багатырова Г. Вагнера, Я. Глебава, Д. Смольскага і іншых.

Да апошніх дзён не спыняў Васіль Андрэевіч сачыць за сваімі былымі студэнтамі. У дзень 85-гадовага юбілею ён звярнуўся да тых, каму аддаў так многа сваёй любві, таленту, ведаў: «Многа і патрабавальна слухайце, многа і патрабавальна вывучайце, і не толькі тых майстроў, творчасць якіх вам імпануе... Ідзіце наперад і наперад... Жывіце ў дружбе, і работа тады будзе ісці спарней».

Пасля 1941 года В. Залатароў цалкам аддаецца кампазітарскай творчасці. Цяжка ў невялікім артыкуле нават пералічыць найбольш значныя творы кампазітара, створаныя ў 1941—1964 гадах. Таму назаву толькі некаторыя: Пятую, Шостую і Сёмую сімфоніі, канцэрты — для фартэпіяна, віяланчэлі, домры, эмірытона (электра-музычнага інструмента) з сімфанічным аркестрам, Шосты струнны квартэт на рускія народныя тэмы і Квартэтная сюіта, Фартэпіяннае трыо, вакальныя і харавыя творы, апрацоўкі фальклору. Перапрацоўвае ён сваю оперу «Дзекабрысты» (у новай рэдакцыі — «Кандрацій Рылееў»). Выдае Васіль Андрэевіч і аўтабіяграфічную кнігу «Успаміны пра маіх вялікіх настаўнікаў, сяброў і таварышаў».

У 1943 годзе ён пачынае працаваць над адным са сваіх самых усхваляваных і драматычных твораў—Уверцюрай-фантазіяй на беларускія народныя тэмы. У тым жа 1943 годзе В. Залатароў піша яшчэ адну уверцюру. Гэта жыццярадасная, дэмакратычная п'еса стваралася, паводле слоў аўтара, «на ўсімі чаканы выпадак вызвалення Беларусі». Яна і прагучала на святочным канцэрце ў адным з першых вызваленых ад фашыстаў беларускіх гарадоў — Рэчыцы.

Беларусі прысвяціў Васіль Андрэевіч кантату «Слава» на вершы А. Астрэйкі, выкананую ў Мінску ў дзень 30-годдзя Вялікага Кастрычніка. Гэта чацвёртая па ліку кантата кампазітара з'яўляецца сапраўды грандыёзным творам, з незвычайным для беларускай музыкі таго часу складам выканаўцаў: салірующыя галасы, змешаны і дзіцячы хоры, сімфанічны аркестр і аркестр народных інструментаў.

Аднак самым значным пасляваенным творам В. Залатарова з'явіўся балет «Князь-возера» (лібрэта М. Клімковіча, М. Смірнова і В. Вайнанена). Гэта быў першы беларускі балет з яркай канфліктнай музычнай драматургіяй і з сапраўды сімфанічным развіццём вобразаў. Для музыкі балета характэрна багацце аркестравай палітры (напрыклад, у аркестр уводзяцца металафон, саксафон, ксілафон і інш.). Невыпадкова балет «Князь-возера» быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР.

Жыццёвы і творчы шлях Васіля Андрэевіча Залатарова — гэта яркі мастацкі подзвіг.

С. НІСНЕВІЧ.

РАДЫЁ

# КАЛІ ГУЧЫЦЬ ТОЛЬКІ СЛОВА

КАЛІ ГАВОРАЦЬ і пішуць аб тэатральных акцёрах, гутарка ідзе перш за ўсё аб іх сцэнічнай дзейнасці. Значна радзей — аб рабоце на тэлебачанні. І амаль ніколі — аб іх вялікай і складанай рабоце на радыё, а менавіта ж радыё даносіць іх галасы да самай шырокай, шматмільённай аўдыторыі слухачоў.

Сёння я хачу пагаварыць менавіта аб гэтай галіне іх дзейнасці, аб яе спецыфіцы, аб яе значэнні.

Цяжка бывае акцёрам, якія ўпершыню прыходзяць на радыё. Тут няма непасрэднага кантакту са слухачом, і адчуць яго рэакцыю немагчыма. Да таго ж малады акцёр зусім не знаёмы з тэхнічнымі ўмовамі работы на радыё—адлегласць ад мікрафона, сіла і накіраванасць гуку і г. д. Спачатку мікрафон заўжды падводзіць: ён занадта ўзмацняе голас, падкрэслівае шыпячыя гукі, асабліва на шэпце. Але той жа мікрафон, пры ўмелым абыходжанні, робіцца сябрам артыста. Ён дапамагае данесці літаральна да кожнага слухача жывое ўсхваляванае слова чытальніка, самыя запаветныя яго думкі і пачуцці. Каб сыграць на радыё любую ролю, не трэба мець ні адпаведных знешніх дадзеных, ні асабліва гучнага голасу. Ці трэба гаварыць, як пашырае гэта дыяпазон артыста, якія дадатковыя творчыя магчымасці яму дае...

Але ўжо затое артыст, якога запрашаюць у радыёспектакль, павінен дасканала валодаць тым арсеналам сродкаў, якога вымагае гэты від мастацтва. Голас можа быць не гучны, але абавязкова гнуткі, паслухмяны, дастаткова шырокі па дыяпазоне, багаты на паўтоны.

Дакладнае і выразнае вымаўленне—неабходная якасць акцёра на радыё. Мікрафон агаляе і ўзбуйняе некаторыя недахопы дыкцыі, якія ў тэатры бываюць не так прыкметны (вяласць, невыразнае артыкуляванне і нават пропуск некаторых зычных, «глытанне» канчаткаў слоў, неахайнасць, скарагаворка). Мова ля мікрафона павінна быць бездакорная і дыкцыйна і арфаэпічна, бо яна ўспрымаецца слухачамі як эталон моўнай культуры. Данясе мікрафон да слухача і кожную няшчырую інтанацыю. Слова на радыё—усё. І ад таго, што і як скажуць акцёры сваім слухачам, залежыць поспех асобнай перадачы і радыё наогул як сродка духоўнага выхавання тысяч і тысяч людзей.

У Мінску ёсць шэраг акцёраў, якія выдатна зарэкамендавалі сябе на радыё.

Сапраўдным майстрам слова з'яўляецца Леанід Рахленка, які авалодаў усімі таямніцамі радыёмастацтва. Дзейсная мова, добрае веданне законаў мастацкага чытання, дакладнасць думкі, якая дазваляе пабудаваць фразу ясна і лагічна,—вось кампаненты, якія робяць дасканалай творчасць акцёра ля мікрафона. Новы запіс Л. Рахленкі (урывак з трылогіі Я. Коласа «На ростанях»)—сапраўдны твор мастацтва, у якім цудоўная проза Коласа набывае новыя фарбы і адценні ў выдатным выкананні народнага артыста.

Цалкам адпавядаюць умовам работы на радыё, на мой погляд, галасавыя дадзеныя Марыі Захарэвіч. Асабліва ярка праявіла сябе артыстка ў інсцэніроўцы аповесці І. Шамякіна «Хлеб», дзе чытае тэкст вядучай і адначасова іграе ролю Анечкі. Лёгка, натуральна атрымліваюцца ў М. Захарэвіч галасавыя перабудовы, якіх вымагаюць зусім розныя вобразы. Кожны новы кавалак тэксту яна чытае, выкарыстоўваючы разнастайныя інтанацыйныя фарбы.

Узорам па-майстэрску пабудаванага дыялога можа служыць дыялог Агаты і Зыгмуся ў выкананні Ліліі Давідовіч і Барыса Уладамірскага ў інсцэніроўцы аповесці Кузьмы Чорнага «Верасnёвыя ночы». Шапялявячы, знарок расцягваючы словы, Б. Уладамірскі стварае востра-характарны вобраз нуднага, недалёкага панка. Л. Давідовіч таксама пачынае гаварыць у яго манеры, паўтараць яго інтанацыі, і мы адразу ж адчуваем іранічныя, насмешлівыя адносіны Агаты да свайго няўдалага кавалера. Слухаючы Л. Давідовіч і ў гэтай рабоце, ды і амаль ва ўсіх іншых, не перастаеш здзіўляцца яе адчуванню мелодыкі беларускага слова.

Безумоўнай увагі заслугоўвае работа акцёраў, часта занятых на радыё ў дзіцячых перадачах, у прыватнасці—Рымы Маленчанкі. У яе рэпертуары многа казак, якія гучаць у асноўным у штодзённай перадачы для дзяцей «Калыханка». Актрыса выдатна адчувае аўдыторыю, на якую разлічана перадача, умее авалодваць увагай самых маленькіх слухачоў, а гэта не так проста: не пачуўшы нейкага слова або страціўшы цікавасць да перадачы на момант, дзіця губляе ніць усяго апавядання. Шматлікія пісьмы ў рэдакцыю з просьбай паўтарыць казкі ў выкананні Маленчанкі сведчаць аб тым, што актрыса спраўляецца са сваёй задачай.

Многа і цікава працуюць на радыё М. Громава, В. Тарасаў і іншыя акцёры. Яны засвоілі спецыфіку радыё і перад мікрафонам пачуваюць сябе гэтак жа свабодна і натуральна, як на сцэне. Але, як я ўжо адзначала, аб рабоце акцёра на радыё вельмі мала гавораць і пішуць спецыялісты. І маладыя акцёры прыходзяць у студыю зусім непадрыхтаваныя да гэтага роду дзейнасці. Чаму б не знаёміць выхаванцаў тэатральных інстытутаў са спецыфікай работы на радыё і тэлебачанні? У нашым тэатральным сцэнічную мову выкладаюць заслужаныя артысты рэспублікі Л. Стасевіч і І. Курган—вопытныя чытальнікі Беларускага радыё. Я думаю, яны маглі б шмат расказаць будучым акцёрам пра сваю прафесію. Такія гутаркі, несумненна, дапамаглі б акцёрскай моладзі ў рабоце перад мікрафонам і тэлекамерай, сустрэчы з якімі яе спачатку проста палохаюць.

Мне здаецца, што ў інстытуце неабходна таксама стварыць кабінет гуказапісу, дзе студэнты маглі б праслухоўваць сябе. Патрэбна спецыяльная фанатэка, у якой захоўваліся б запісы выдатных акцёраў—майстроў слова і плёнкі з запісанымі студэнцкімі работамі. Гэта створыць дадатковыя магчымасці для ўдасканальвання моўнага майстэрства студэнтаў, што, у сваю чаргу, пашырыць перспектывы іх работы і ў тэатры, і на тэлебачанні, і на радыё.

**Ала ШАГІДЗЕВІЧ,**
асістэнт-стажор школы-студыі МХАТ.

# ПРЫ БАГАТЫМ ТВОРЧЫМ ПАТЭНЦЫЯЛЕ...

*ВЫЯЗНОЕ ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА БТА Ў БРЭСЦЕ*

Пяць дзён з асаблівым хваляваннем выходзілі на сцэну акцёры Брэсцкага рускага драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі. Пакуль гледачы, стаіўшы дыханне, сачылі за дзеяннем п'есы, некалькі чалавек у зале час ад часу схіляліся над блакнотамі, нешта запісвалі. А потым удзельнікі выязнога пасяджэння прэзідыума Беларускага тэатральнага аб'яднання сумесна з калектывам тэатра па-сяброўску добразычліва і ў той жа час прынцыпова абмяркоўвалі работы брэстаўчан.

— Лепшае з убачанага, — сказаў кандыдат мастацтвазнаўства **С. Пятровіч,** — «Мяшчане» М. Горкага і «Трэцяя варта» Г. Капралава і С. Туманава (абодва спектаклі пастаўлены галоўным рэжысёрам тэатра, народным артыстам БССР Г. Волкавым). Парадавалі шматграннасць і паўнакроўнасць вобразаў, створаныя ў іх, акцёрскае ўзаемаразуменне, а галоўнае— сувязь з сучаснасцю. Тое, што адбываецца на сцэне, знаходзіць самы жывы водгук у зале.

Найбольшае ўражанне — роля Цецерава ў «Мяшчанах». Складаны, перакананаўчы вобраз стварыў заслужаны артыст БССР Ю. Уласаў. Лічу, што выдатна зроблены і вобраз Бессяменава — у яго ролі народны артыст БССР А. Логінаў. Кранаюча, хораша глядзелася артыстка Р. Семічава ў ролі Полі, трапятлівасцю, цеплынёй вылучаецца Акуліна (арт. З. Курдзянок).

Астатнія вобразы, на маю думку, пакуль што не знайшлі такога ж яркага ўвасаблення. Не хапае фарбаў, адметных рысаў і Шышкіну (арт. В. Глінскі), і Тацццяне (арт. Т. Волкава), і Цвятаевай (арт. Л. Бяляева).

Што датычыць спектакля «Трэцяя варта», то мне ўсё-такі здаецца, што п'еса не атрымала адпаведнага сцэнічнага ўвасаблення і цікавейшая за спектакль. Баўмана (арт. І. Мацкевіч) хацелася б бачыць унутрана больш палымяным, а Саву Марозава (арт. А. Логінаў) больш таленавітым па натуры, неўтаймаваным. З жаночых вобразаў з пэўнымі агаворкамі можна адзначыць заслужаную артыстку БССР Н. Ганчарэнка ў ролі Марыі Фёдараўны Андрэевай.

Спектаклі «А зоры тут ціхія...» і «Саслужыўцы» (пастаноўка заслужанага артыста БССР С. Яўдошанкі) патрабуюць, на мой погляд, пэўнай дапрацоўкі. У спектаклі «А зоры тут ціхія...» не знойдзены той рытм, які б дапамог ускрыць напружанае дзеянне п'есы. Замест фашыстаў мы ўбачылі нейкія аперэтачныя фігуры. Каларытнейшыя вобразы п'есы Э. Брагінскага і Э. Разанава «Саслужыўцы» атрымаліся на сцэне аднастайнымі.

Склалася такое ўражанне, што жаночая частка калектыву глядзіцца слабей. Хацелася б, каб больш ярка паказвала сябе на сцэне моладзь...

— У гэтым тэатры я бачыў многія спектаклі, — пачаў сваё выступленне кандыдат мастацтвазнаўства **Г. Барышаў.**— У гэты прыезд пазнаёміўся з работамі мастака Юрыя Ігліна.

У сучасным спектаклі мастак павінен не проста праўдзіва адлюстраваць эпоху і быт, але і быць сарэжысёрам спектакля, умець карыстацца сродкамі свайго мастацтва. Юрый Іглін адчувае жанрава-стылістычныя асаблівасці п'есы. Гэта здольны мастак, але яму не хапае дакладнасці вобразнай думкі. Вось, напрыклад, у спектаклі «Залатое вуха» ў касцюмах і прынца І-го-га, і маркіза Какаду павінны быць абыграны іх імёны, асаблівасці характару. Тут найбольш характэрная



Сцэна з прэм'еры Брэсцкага тэатра імя ЛКСМБ «А зоры тут ціхія...» па аднайменнай аповесці Б. Васільева. Інсцэніроўка С. Дзіманта і Б. Эрына. Рэжысёр заслужаны артыст БССР С. Яўдошанка. Мастак Ю. Іглін. На здымку—сцэна са спектакля.

Фота П. ЛАЎРУСІКА.

*З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ*

# Бурбіс і Цётка—на сцэне

Значнае месца ў жыцці беларускага народа ў перыяд паміж дзвюма рэвалюцыямі (1905—1917 гады) займаў тэатр. Гэта мы бачым на прыкладзе дзейнасці Гродзенскага гуртка беларускай моладзі, Віленскага беларускага музычна-драматычнага гуртка, Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Пецярбургскага універсітэта і крыху пазней — Гродзенскай грамады беларускай моладзі, слуцкага гуртка «Папараць-кветка» і шмат якіх іншых тэатральных калектываў вёсак і мястэчак Беларусі.

У перыяд рэвалюцыі 1905 года ў кіруючых колах Беларускай сацыялістычнай грамады ўзнікае думка выкарыстаць тэатр у мэтах прапаганды. Яе падтрымалі самыя актыўныя рэвалюцыйныя дзеячы віленскага камітэта Грамады Алесь Бурбіс і Цётка.

Першая спроба такой арганізацыі беларускага тэатра адбылася ў 1906 годзе. На хутары Пятроўшчына пад Мінскам ставілі «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага. Актыўным арганізатарам і ўдзельнікам гэтай пастаноўкі быў Бурбіс...

У гісторыі беларускага тэатра прынята лічыць, што ў трупе Буйніцкага былі два рэжысёры А. Бурбіс і А. Алексенка. Ёсць жа факты, на аснове якіх можна сцвярджаць, што ніякага А. Алексенкі ў трупе не было. Гэта быў сцэнічны псеўданім А. Бурбіса. Ён быў адзіным, калі не лічыць самога Буйніцкага, рэжысёрам у трупе, які ставіў спектаклі ў 1910—1911 гадах, іграючы адначасова ў іх цэнтральныя ролі.

У тыя часы ў рэцэнзіях «Нашай Нівы» і «Беларуса», якія былі адзінымі крыніцамі інфармацыі на беларускай мове аб тэатры, не прынята было ўспамінаць сапраўдных прозвішчаў артыстаў. Часцей абмяжоўваліся крыптанімам, ініцыяламі, псеўданімам альбо называлі дзейную асобу, якую акцёр іграў. Гэта было невыпадкова. Многія гурткі дзейнічалі нелегальна. Прыходзілася даваць інфармацыю, выдумляючы прычыны і абстаноўку, каб не навесці на след паліцыю. У тэатры Буйніцкага працавалі віленскія акцёры. Некаторыя з іх—члены Грамады. Там нелегальна працавалі Цётка, Бурбіс, які для ахранкі быў значнай фігурай.

Віленская польская прэса, якая выдатна ведала Бурбіса, выказвалася больш адкрыта, і таму ў яе рэцэнзіях на беларускія спектаклі ёсць хоць і скупыя, але больш праўдзівыя звесткі аб акцёрах, аб іх ігры, чым нават у «Нашай Ніве». Праз гэтую прэсу і ўдалося выявіць некаторыя ролі, якія іграў у спектаклях трупы Буйніцкага Бурбіс. Так, параўноўваючы рэцэнзію «Нашай нівы» (№ 6, 1911 г.) на спектакль тэатра Буйніцкага «Пашыліся ў дурні», які адбыўся 6 лютага 1911 г. у Вільні, з рэцэнзіяй на гэты ж спектакль у газеце «Kurjer Wileński» (№ 31, 1911 г.), мы даведваемся, што лепшы з усіх быў Алесь Бурбіс, які іграў ролю Куксы. У тэатральнай жа праграме да гэтага спектакля стаіць сцэнічнае прозвішча «Алексенко».

Пасля гэтага лёгка было здагадацца, што крыптанім «Б—ко», якім «Наша Ніва» (18—19, 1911 г.) у рэцэнзіі на спектаклі «У зімовы вечар» і «Сватанне» называе выдатнага і вядомага ўжо артыста, расшыфроўваецца не інакш, як «Бурбіс—Алексенко»». Бурбіс іграў Падарожнага («У зімовы вечар») і Івана Ламаку («Сва-

*ГОСЦІ МІНСКА*



Магілёў, Мінск, Віцебск — такі гастрольны маршрут заслужанага артыста РСФСР Аляксандра Іванова-Крамскога па Беларусі. У праграме — творы, напісаныя для гітары, і пералажэнні для гэтага інструмента. У канцэртах прымае ўдзел піяністка Людміла Буніна.

Фота Ул. КРУКА.




АТРЫМАЛА я вестачку, людзі добрыя. Міша, самы меншы мой, адбіў тэлеграму, што дэмабілізаваўся з арміі і дадому едзе, дый не адзін, а з жонкаю. Ажаніўся, значыцца. Ну, што ж, будзе і ў мяне нявестка. А як жа? Чатырох дачок выгадавала, а яны, як тыя ластаўкі, апырыліся, дый пырх-пырх з бацькоўскага гнязда. Павыхсдзілі замуж, а ты на старасці год сядзі адна. Захварэеш — няма каму і вады падаць.

Аж бач, сынок мой, значыцца... Толькі ж трывога на душы, думкі розныя...

— А чаго вам, цётка Серафіма, перажываць? — пытаюць мяне.

— А то няма чаго? Гэта ж, прабачце за слова, не казу ў гаспадарку вязе, а з нявесткаю едзе. А што яна за птушка? Які ў яе характар? Можа, радасці будзе поўна хата, а можа... Наглядзелася я на чужых нявестак, наслухалася пра іх...

Добра, калі б трапілася такая, як у Гарбузенкаў. Там Іван інжынерку сабе падчапіў. Цяпер яго Аксана Пятроўна ўсёй тэхнікай у калгасе запраўляе. Часам самога нашага старшыню, Саўковіча, павучае.

Дык вось і думаю: добра, калі гэткая трапіцца, а калі, не давядзі божа, прывязе такую, як Кавалёвых сын летась прыдбаў? Прыехаў Аляксей тых Кавалёвых у адпачынак да бацькоў (недзе ён у Адэсе працуе, кажуць, нейкім начальнікам на моры), ну, і прывозіць, значыцца, жонку. Кіраю завуць...

Матухна мая! Колькі жыву, а такога не бачыла. Валоссе ў яе на галаве нібы гусь абшчыпала. Толькі пасмы тырчаць. Колеру і не вызначыш. Пры самай скуры дык нейкае варанае, крыху вышэй — ужо буланае, а на канцах — болей на рыжае падобна. Пазногці чырвоныя і вострыя, як кіпцюры ў каршуна. Спаднічына на ёй, каб не зманіць, як шкурка на каўбасе, — так прыстала. А кофта... Тут аж сорамна гаварыць, бо прасвечваецца так, што і ўсё сподняе праз яе відно...

— Як жа ты, дачушка, да печы падступішся? — развяла рукамі Каваліха, агледзеўшы сынаву жонку.

— А я, матуля, такімі справамі не займалася дома, не думаю і ў гасцях рукі верадзіць, — адказала нявестачка, чысцячы шчотачкаю пазногці.

Праз некалькі дзён свякруха зноў за сваё. Ведаеце ж, як хочацца нявестку за справаю пабачыць. Пахваліцца потым суседзям, як яно і што.

— Можа, — гаворыць, Кірачка, хоць бульбачкі мне абярэш, пакуль я да каровы схаджу.

— Што вы?! — адмахнулася нявестка. — Ад бульбы рукі грубеюць, скура жоўкне.

— То, мо, хоць вады прынясеш? — свякруха просіць.

— А фігура?! — сказала нявестка так, што ўжо болей ніхто не пасмеў прапанаваць ёй нейкую работу.

А якая там фігура, каб вы бачылі. Аловак дый годзе. Так вось за месяц у гасцях тая Кіра нат за халодную ваду не ўзялася. Яшчэ прымусіла старога Каваля ляскаўку зрабіць ды мух штодня выбіваць, бо, бачыце, спаць заміналі ўдзень.

Розныя бываюць нявесткі. Вось узяць хоць бы Марыю, што за Фёдарам Нагорным. Дзяўчына — кроў з малаком, звеннявая першай рукі. Ордэн ёй дзяржава наша дала, і ад свякрухі штодня падзякі мае.

Цяпер дык яно так. Жанчына ў сіле, аўтарытэтам карыстаецца, цану сабе ведае. А калісь не тое было. Вось узяць мяне...

Бедненька жылі мы адразу пасля рэвалюцыі. Бацька з грамадзянскай вайны не вярнуўся, каняка ў гаспадарцы адна. Зямлю нам далі, ды як яе апрацуеш? Вось маці мая толькі і спадзявалася, што на маё замуства.

На красу, няўрокам кажучы, я ўдалася нішто сабе. Ды здароўечка было на зайздрасць. Вось і прыстаў да мяне, як дзядоўнік, Клім Дуля. Росту ён мізэрнага, злы, як сабака, толькі што з дастаткам.

— Не пайду я, мама, за гэтага Дулю, — адмаўляюся я.

— Пойдзеш, — настойвае маці, — іначай з галечы не выб'емся.

І мусіла я паслухацца... З першага ж дня рабіла, як вол. Мала таго, што ў полі набегаешся за дзень, дык яшчэ і дома за гаршкамі ды свіннямі свету не бачыш. А Клім слухае папрокі сваёй маці ды ўсё, бывала, да мяне чапляецца. Неяк не вытрымала я і агрызнулася. Эх, як падскочыць мой чалавек, як зашыпіць. Мах кулаком, мах, а дастаць да твару не можа. Яшчэ болей злуецца.

— Нагніся! — крычыць.

— А чорта лысага! — я яму.

— Нагніся! — аж зелянее Клім.

— Бі, — кажу, — па каленях, калі не дарос.

— А ну, паслухай мужа, нявестачка! — уляцеў тут у хату свёкар, ды за шыю мяне. А муж узрадаваўся і давай у нос тыкаць. Да крыві расквасіў.

Вось так і жылі. А Клім усё болей шалеў. Цярпела, аж пакуль цярпенне не лопнула...

Аднаго разу паехалі мы ў поле ўдвух жыта дажынаць. Жалі, жалі, а калі скончылі, то селі пад возам перакусіць. І тут нешта я не да спадобы сказала. Бачу — збялеў мой мужык. Адразу падхапілася на ногі, бо, ведаю, можа ўдарыць.

Махнуў ён кулаком і так рэзнуўся аб мой локаць, што аж заверашчаў.

— Нагніся, — камандуе.

— А ты, — дражню я яго, — стань на воз, я пачакаю.

— Нагніся, — падскоквае ён да мяне з кіем у руках.

— Эге, голубе, — я на яго, — тут свёкра няма. Пачакай жа!

Раззлавалася ўжо, бо, бачу, канец гэтаму трэба класці, ды хоп Кліма ўпоперак. Скруціла яго, кінула на воз, прывязала рукі і ногі да драбін і давай хвастаць па тым месцы, дзе сінякоў не відаць.

— Развяжы, — крычыць Клім. — Знішчожу ведзьму!

— Не, — гавару, — досыць. Цяпер у нас па законе аднолькавыя правы. Болей на мне ездзіць не будзеш.

Адлупцавала я мужыка, а тады запрэгла коней, вывела на дарогу, хвастанула і пусціла ў вёску. Ведала, двор знойдуць, не заблудзяць. А сама пабегла ў сельсавет. Расказала ўсё старшыні ды і да маці. Болей да мужа не пайшла. А выйшла потым замуж за Макара, во добра з ім пажылі. Калі б не вайна, і зараз бы разам былі.

Дык вось, якія, кажу я вам, часы былі. А цяпер нявестка што? Якая пападзецца. Захоча свякрусе скарыцца — то добра, а не захоча — дык таксама нічога не зробіш. Ад такой, як тая Кіра-фігурыстка, дабра не чакай. А ёсць жа багата такіх нявестак, што пакланіцца ім хочацца, пацалаваць. І гераіні, і дэпутаты, і вучоныя! Такой ужо муж не скажа: «Нагніся». Нават удвух са свёкрам не пасмеюць.

Вось я і думаю, што розныя на свеце нявестачкі бываюць. І хутчэй хочацца пабачыцца ды даведацца, якой жа тая мая будзе? А вы кажаце, чаго тут перажываць?

Пераклад з украінскай.

Сцяпан АЛЕЙНІК

# МАЕ ПЕРШЫЯ КРЫТЫКІ

*ЗГАДКА-УСМЕШКА*

Было мне тады гадоў дванаццаць. Захоплены з дзяцінства вершамі, пачаў я сам паціху рыфмаваць. Ні пра якія кансультацыі, кабінеты маладога аўтара ды пра іншых літаратурных нянек нават уяўлення не меў. А пачытаць камусьці тое напісанае надта карцела.

Дык вось аднойчы (без пуцёўкі, без прадстаўніка бюро прапаганды) выйшаў я на аўдыторыю, што складалася з чатырох дзядзькоў, якія пакурвалі на старой калодзе перад нашым свіронкам.

Уступнае слова зрабіў мой ласкавы тата:

— Парываецца сачыняць. І прыкмячаю, што вялікая ў яго нявытрымка да гэтага дзела. То, можа, паслухаем.

Пагладзіў рукою мой чуб:

— Чытай, сынку.

І я пачаў:

Па дарозе, з-за дубровы
Возяць людзі гарбузы,
Ды такія — будзь здаровы! —
Аж паскрыпваюць вазы.

Не даслухаўшы верш да канца, дзядзька Харытон кінуў з месца крытычную рэпліку:

— Бо не змазваюць, яны і паскрыпваюць! А мазь жа ў краме ёсць. Цэлая бочка стаіць пад сцяною!..

Недзе ўжо ў чацвёртай страфе да слоў «поўны сіл» ужыў я, помніцца, для рыфмы імя «Васіль».

— Гэта ты, мусіць, на Васіля Куца намякаеш, бо іншага Васіля ў нашым канцы няма,— перабіў дзед Есып.— Не трэба яго й згадваць, бо гэта дужа гультаяваты чалавек. Чуеш? Не трэба!..

Я нічым не мог яму запярэчыць і чытаў ужо канцоўку верша:

Восень, восень. Пад нагамі —
Лісце жоўтае лазы...
З поля доўгімі вазамі
Возяць людзі гарбузы.

Ніякіх воплескаў не было. Аўдыторыя хвілін з пяць памаўчала, а потым азваўся дзядзька Алекса:

— Выйшла нібы складна, але не возяць ужо гарбузы! Я вунь свае яшчэ два тыдні таму звёз у клуню і накрыў саломай. На зябліва цяпер людзі аруць!..

На гэты крытычны ўдар адказаў мой тата:

— Ён пачаў пісаць, дзядзька Алекса, тады яшчэ, калі іх вазілі, і запазніўся...

— Пазніцца нельга ні ў якім дзеле! На вяселлі і спявай вясельнае!...—уставіў дзядзька Харытон.

— А то так!—дадаў чацвёрты слухач, дзядзька Фёдар. — Хто спявае далёка ззаду, таго не пачуюць!

...Такімі суровымі былі тыя мае першыя крытыкі. І хоць успамінаюцца яны з мілай усмешкай, усё адно я, мабыць, штосьці важнае збярог у душы ад іх шчырых парад.

З украінскай пераклаў В. РАГОЙША.

Уладзіслаў БОЙКА

# Зайка і вожык

(Байка)

У лесе Зайка з Вожыка труніў:
— Якім няўдалым бог цябе стварыў...
Ні поўсці нармалёвай,
Ні вушэй.
Ды я пабіцца аб заклад гатовы,
Што за цябе і Чарапаха поўзае
шпарчэй!
Бо крывалапы ты, няўклюда,
Ад цуцыка малога не ўцячэш,
А што, як Воўк накінецца — паскуда!
Тады і костачак сваіх ты не збярэш...
— Эге ж, —
Заусміхаўся Вожык хітравата, —
Прыгожы ты, харобры, зухаваты,
Табе нішто сам Воўк,
Але... зірні, браток,
Сюды імчыцца
Напрасткі
Лісіца.
Вось смеласць пакажы сваю,
А я тым часам крыху падрамлю...
І Вожык выставіў калючкі, як штыкі!

□

Мараль тут сэнс магчыма б мела,
Але Лісіца Зайца з'ела...

Адвольны пераклад з украінскай Эдуарда ВАЛАСЕВІЧА.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.



Індэкс 63856 АТ 03128